

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№9(125)

1 ліпеня 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# “МНЕ ЦІКАВЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЗРАБІЛІ ЎНЁСАК У СТАНАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ”

**Ясь ГАСПАДАР**

***Мы ўжо неаднойчы знаёмілі сваіх чытачоў з поспехамі нашага земляка Алеся Лапо. Малады творца з горада Клімавічы займаецца кінадакументалістыкай, вывучае гісторыю і стварае краязнаўчыя даследаванні. А нядаўна Алесь скончыў працу па напісанню біяграфіі вядомага дзеяча беларускага кіно Юрыя Тарыча. Сёння яе ўжо можна адшукаць у кніжных крамах. З гэтай нагоды мы вырашылі сустрэцца з аўтарам і задаць яму некалькі пытанняў.***

**** КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА:*** Алесь, нам вядома, што твая кніга ўжо з’явілася ў продажы. Калі ласка, распавядзі, якім чынам адбылася гэтая падзея?

**** АЛЕСЬ ЛАПО:*** Маё выданне нагадвае хутчэй брашуру. На гучны статус “кніга” яна не цягне: усяго 62 старонкі ў тонкай вокладцы. Яна выйшла ў серыі “100 выдатных дзеячаў беларускай культуры”, заснаванай вядомым публіцыстам Анатолем Тарасам. У яго ўзнікла выдатная ідэя: у лёгкай форме і невялікім фармаце распавесці пра найбольш заслужаных дзеячаў беларускай культуры, у тым ліку пра тых, пра каго не сустрэнеш інфармацыі ў школьных падручніках; і выдаць усё гэтае максімальным для такога кшталту выданняў – 1500 паасобнікаў. Мяне натхніў такі важкі наклад, і я вырашыў узгадаць ужо падзабытую тэму магістарскай работы (“Дзяржаўная палітыка ў беларускім кіно (1924-1941 гг.)”) для таго, каб напісаць пра найбольш яскравага кінарэжысёра гэтага часу.



**** КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА:*** Нашым чытачам будзе цікава даведацца, хто такі Юрый Тарыч, якое месца ён займае ў культуры і мастацтве Беларусі? Чым вызначыўся ён як асоба і як творца?

**** АЛЕСЬ ЛАПО:*** Юрый Тарыч — пачынальнік беларускай кінарэжысуры, у 1926 годзе паставіў першы беларускі іgraвы фільм “Лясная быль”. Яго запрасілі на айчынную студыю якраз тады, калі ён быў на хвалі поспеху: яго фільмы былі сярод першых, што прабілі дарогу на замежныя экраны. У часы нэпу яму ўдалося зняць некалькі карцін з яскравым нацыянальным каларытам — “Лясная быль” і “Да заўтра”. У трыццатыя гады гэта было ўжо немагчыма нават для аўтарытэта Тарыча. Больш за тое, каб уратаваць сябе ад рэпрэсій, а магчыма і смерці, Юрый вырашыў “змяніць” сваё месца нараджэння. З тых часоў і дагэтуль лічыцца, што ён нарадзіўся ў Полацку, хоць насамрэч ён з’явіўся на свет у польскім Плоцку. Гэта, напэўна, галоўнае адкрыццё, якое ўдалося ўвесці ў зварот дзякуючы кіраўніку Музея кіно Ігару Аўдзееву.

**** КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА:*** А як ты лічыш, Алесь, чаму сучасным беларусам трэба ведаць і памятаць пра Юрыя Тарыча? Тваё ўласнае меркаванне?

**** АЛЕСЬ ЛАПО:*** У яго павучальны лёс, які паказвае, што ў жыцці варта найперш разлічваць на сябе, упарта працаваць і не зважаць на былыя заслугі.

**** КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА:*** Калі не сакрэт, пра каго з вядомых людзей Беларусі ты хацеў бы яшчэ напісаць кнігу?

**** АЛЕСЬ ЛАПО:*** Мне цікавыя людзі, якія зрабілі ўнёсак у станаўленне беларускай нацыі, але баюся, што ўсе яны маюць сваіх даследнікаў, і мне не ўдасца сказаць больш за іх. Я ведаў, што за Тарыча апроч мяне наўрад ці хто возьмецца – таму і напісаў!

**** КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА:*** Што ж, вялікі дзякуй за сустрэчу і размову. Жадаем табе, Алесь, новых творчых поспехаў і дасягненняў!!

**** АЛЕСЬ ЛАПО:*** Дзякую і Вам!



# СВІНІНА ЯК ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА

Міхась ПЯТРОЎ

***Апошнім часам цэны на свініну ў Беларусі растуць амаль штотыдзень. Неверагодна, але яны ўжо перасягнулі аналагічныя кошты ва ўсіх суседніх з нашай краінай дзяржавах. Напрыканцы вясны партал Naviny.by параўнаў, колькі каштуе свіны філей у айчынных і замежных крамах. Дык вось, у Мінску за свінінку трэба было адлічыць ад 120 да 150 тысяч рублёў, у Расіі — у сярэднім 100 тыс., у Польшчы і Украіне — прыкладна 75 тыс., у Літве — каля 65 тыс. Але самае дрэннае тое, што беларускім гаспадыням лепей настройвацца на далейшае падвышэнне, бо Урад не ведае, як спыніць цэны.***



### ЛУКАШЭНКА ЗАНЕПАКОІЎСЯ

Паказальна, што Аляксандр Лукашэнка цудоўна разумее, як могуць адрэагаваць на сітуацыю жыхары краіны "чаркі і шкваркі". Таму ўсю вясну ён настойліва патрабуе ад міністраў ліквідаваць мясны дэфіцыт у крамах. Што тычыцца менавіта свініны, то тут ён выказаўся дастаткова шчыра: "Гэта ўжо палітычная праблема. Мала таго, што цэны выраслі — свініну не знайсці", — заявіў Лукашэнка, калі быў нядаўна ў Мінскай вобласці. Па яго словах, "свініны ў свеце хапае, і ў нас гэтую праблему трэба зняць". А каб палепшыць становішча ён нават дазволіў часовы імпарт мяса да аднаўлення пагалоўя свіней: "Ёсць людзі, якія прывязуць, перапрацуюць і па той цане, па якой мы скажам, выгадна прададуць тут. Таму вырашайце гэтае пытанне. Мы павінны атрымаць свініну ў поўным аб'ёме не пазней, чым першы квартал наступнага года".

Наапошак Лукашэнка яшчэ раз падкрэсліў, што да зімовага перыяду свінакомплексы павінны вырашыць праблему з мясам: "Што за праблема? Гэта ж не быка вырасціць, што яму трэба 18 месяцаў! Гэта на працягу года можна аднавіць пагалоўе". Сваю занепакоеннасць ён патлумачыў наступным чынам: "Вы ж бачыце, што людзі бегаюць: дай свініны, дзяцей карміць сёння няма чым".

### "БУДУЦЬ ДУШЫЦЬ І ШЧАМІЦЬ..."

Дэфіцыт свініны і хуткі рост цэнаў на яе быў выкліканы рознымі прычынамі. Афіцыйная пазіцыя грунтуецца на тым, што становішча пагоршылася з-за афрыканскай чумы свіней. У барацьбе з АЧС свіное пагалоўе вынішчалася як ў прыватных, так і дзяржаўных гаспадарках. Статыстыка паказвае, што колькасць свіней у сельскагаспадарчых арганізацыях істотна зменшылася: у красавіку 2013 года налічвалася 3 млн. 343 тыс. свіней, у красавіку 2014 года — 2 млн. 659 тыс. З такімі вынікамі, безумоўна, у крамах будзе пуста.

Існуе яшчэ адзін погляд на праблему. Незалежнае Радыё Свабода з самага пачатку з'яўлення ў краіне першых ачагоў АЧС адсочвала развіццё падзей. І яшчэ тады прыватныя вясковыя гаспадары прадказвалі, што ў хуткім часе цэны на свініну прыкметна ўзрастуць. Бо знішчэнне пагалоўя ў вясковых гаспадарках у рэшце рэшт пойдзе на карысць буйным вытворцам свініны, якія не будуць стрымліваць цэны: "Памятаеце, я казала, якія наступствы будуць? Знішчаць прыватніка, а калгасы падымуць на свініну цэны і яна знікне наагул", — нагадвае зараз журналісту Радыё Свабода гаспадыня з Магілёўскага раёну.

"Таму сёння свініна і нарасхват. У прыватніка не засталося нічога. Цэны высокія, — тлумачыць сваё разуменне сітуацыі жанчына і дадае: — Тое, што знішчылі прыватніка, цяпер улада шкадуе, вядома ж. Павінны адшукаць вінаватых, якія непрадумана ўсё гэта нарабілі, не думаючы пра заўтра. Іх трэба судзіць. А людзі ў вёсках употай трымаюць для сябе свіней, вядома ж — увесну набралі".

Тыя ж прычыны гучаць у размове з жыхаркай Клімавіцкага раёну. На пытанне, чаму не хапае свініны і растуць цэны, яна кажа: "Прыбралі канкурэнтаў, выходзіць. Прыватнік — ён жа прадае танней, чым дзяржава хоча прадаваць. Таму будуць душыць і шчаміць. Усіх паставяць пад адзін грэбень. Усіх да аднаго".

Паводле яе словаў, людзі працягваюць гадаваць свіней, хоць і баяцца кантралёраў: "У нас людзі трымаюць свіней. Баяцца штрафаў, судовых цяжбаў, але як жыць...". Зразумела, што пры такіх падыходах прыватная свінагадоўля не мае прываблівай будучыні. Да таго ж на ўсходзе Магілёўскай вобласці, у прыватнасці ў Клімавіцкім раёне, дагэтуль дзейнічаюць узмоцненыя меры бяспекі супраць АЧС. Таму "палітычная праблема", або недахоп таннага мяса, можа надоўга стаць звыклай з'явай для насельніцтва гэтага рэгіёну.

## ЛУКАШЭНКА ДАЗВОЛІЎ ЭКСПЕРЫМЕНТ З МАЛАКОМ

Уладзімер ГЛОД, Радыё Свабода

***Вытворцы малака Магілёўскай вобласці атрымалі права самастойна вызначацца з цаной і пакупнікамі сваёй прадукцыі. Дазвол на эксперымент даў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы сыраробны завод у Бялынічах, перадае БелТА.***

***Гэты завод уваходзіць у структуру холдынгу «Бабушкина крынка». Дырэктар холдынгу Ігар Кананчук паскардзіўся: кампанія б хацела пашыраць сваю зону малочных закупаў на тэрыторыі вобласці, аднак гэтаму перашкаджаюць мясцовыя абмежаванні.***

***Лукашэнка прарэагаваў на скаргу так: «Давайце дамовімся: праз тыдзень у Магілёўскай вобласці ў якасці эксперыменту ўводзіцца свабоднае цэнаўтварэнне і доступ спажыўца малака да вытворцы. Пераможаш ты — значыць, усё тваё малако ў Магілёўскай вобласці. І ніхто нас не папракне. Мы свабодна далі ўзяць зону сыравіны».***





# О СЕЛЬСКИХ И ГОРОДСКИХ ПРЕЛЕСТЯХ

Игорь БЫЧКОВ

***Областной еженедельник «Зямля і людзі» не жалеет времени и места для освещения работы животноводческих кадров, их теоретической и практической подготовки. Журналист газеты Михаил Власенко побеседовал за круглым столом со слушателями Учебного центра облсельхозпрода. В опубликованной статье «Страда на фермах» прозвучали два небезынтересных мнения климовичских аграриев.Областной еженедельник «Зямля і людзі» не жалеет времени и места для освещения работы животноводческих кадров, их теоретической и практической подготовки. Журналист газеты Михаил Власенко побеседовал за круглым столом со слушателями Учебного центра облсельхозпрода. В опубликованной статье «Страда на фермах» прозвучали два небезынтересных мнения климовичских аграриев.***

Ветеринар молочно-товарного комплекса Климовичского КХП «Нива-Агро» Артём Иванов похвалился тем, что его ферму посетил Александр Лукашенко: «Думаю, что президенту у нас понравилось — и успехи коллектива, и порядок на производстве. Это придало нам бодрости и уверенности в работе». Секрет успеха и порядка прост: «Мы создали и поддерживаем если не идеальную, то капитальную чистоту в помещениях. Кормушки, проходы и стойла чистим каждый божий день. Ежедневно меняем воду, что, к сожалению, не везде делается». Вот оно как, на иных фермах, оказывается, не могут даже воду коровам поменять, а хотят увеличения надоев.

А Евгений Талалаев, начальник молочно-товарного комплекса племзавода «Тимоново» Климовичского района, добавил свой вклад в копилку аграрного опыта: «Приглашаю вас приехать к нам за опытом… У нас же и надои нормальные, и зарплата — не жалуемся. Доярка получает около 6 миллионов, я как начальник — чуть меньше. Коллектив у нас на новом комплексе молодой, только что сложился. Ещё не успели друг с дружкой познакомиться, а работа ладится, молочко идёт, проблем никаких. И никто о городской жизни даже разговоров не затевает. Доильная установка у нас передвижная, животные на пастбище содержатся круглосуточно. И людям раздолье, как на курорте. И о городских прелестях не помышляем».

Конечно, газета «Зямля і людзі» не преминула объективно отметить, что в области «во многих хозяйствах суточные надои молока, его качество и товарность оказались значительно ниже прошлогодних». В том числе, и в Климовичском районе, находящегося по этим показателям на 108-м месте среди 118 районов страны. Но стоит ли огорчаться и переживать, ведь сами работники ферм говорят, что проблем никаких, людям раздолье, как на курорте, и о городских прелестях они не помышляют. Даже зарплаты у них больше, чем у их начальников. В общем, остаётся с завистью сказать — живут же люди!

## НОВОСТИ РЕГИОНА

### ЗВЕРСКИЕ ШТРАФЫ

***С конца июня штрафы за браконьерство выросли в три и более раза. Размеры штрафов расписаны в новой редакции Правил ведения охотничьего хозяйства и охоты, рыболовного хозяйства и рыболовства. Например, на территории ГЛХУ «Климовичский лесхоз» можно встретить таких животных как лось или барсук. Незаконный отстрел барсука обойдётся в 100 базовых величин (было 20), а лося — в 300 (было 95). Для тех, кто не в курсе, 300 базовых величин — это 45 миллионов рублей.***

### ОТКРЫЛИ ЕЩЁ ПРИ ЦАРЕ

***Педагоги в деревне Осмоловичи Климовичского района говорят, что это последний год их работы в местной школе. По словам учителей, нынешним летом учебное заведение прекратит своё существование. Осмоловичская базовая школа насчитывает 115-летнюю историю, начиная с далёкого 1898 года. В двадцатом веке для неё дважды строили новое двухэтажное здание, чтобы разместить растущее количество учеников. Но теперь село обезлюдело и школу, открытую ещё при царе, собираются закрывать при Лукашенко.***

### НАСТОЯЩИЙ ПОЛКОВНИК

***В Минске состоялась торжественная церемония с участием министра внутренних дел и офицеров милиции. В этот день руководитель МВД Игорь Шуневич поздравил офицеров с присвоением звания полковника, вручив им новенькие погоны с тремя звёздами. Среди отмеченных почётным званием был начальник Климовичского РОВД Сергей Мышковский. После награждения присутствующие сфотографировались, а затем посетили центральный музей МВД.***

### ПРИГЛАШАЮТ УСАДЬБЫ

***На сайте облисполкома появился обновленный список функционирующих агроэкоусадеб Могилёвской области. В нашем регионе имеются следующие агроэкоусадьбы. В Климовичском районе — усадьба «Спадчына» в деревне Реут (Абраменко Зинаида Григорьевна). В Кричевском районе — усадьба «Одиннадцатый кордон» в деревне Зарубец (Дворяченко Игорь Васильевич). В Чериковском районе — усадьба в деревне Мирогощь (Дубяго Сергей Николаевич).***



# КЛИМОВЧАНАМ НАКОНЕЦ-ТО СООБЩИЛИ: «КУПАТЬСЯ ЗАПРЕЩЕНО!»

**Александр ВЛАД**

***15 мая в области официально открылся купальный сезон-2014. К этой дате на Могилёвщине вблизи водоёмов оборудовали более 150 мест для массового отдыха населения. Но, сообщая нашим читателям об открытия купального сезона, мы предупреждали, что в Климовичах ожидания горожан могут не оправдаться. Дело в том, что прошлым летом органы госсаннадзора, взяв пробы воды из городского озера, вынесли предписание о запрете на купание и приостановлении деятельности пляжа. В этом же году, если исходить из существующих реалий, ситуация вряд ли изменилась к лучшему.***

### *ПЯТЬ ИЗ ДЕСЯТИ*

И вот в начале июня в новостях mogilevnews.by прошла информация о том, что городское озеро в Климовичском районе проверили специалисты центра гигиены и эпидемиологии. Пробы, взятые в водоёме, показали, что по санитарно-химическим показателям вода не соответствует установленным требованиям гигиенической безопасности. Таким образом, высказанные нами опасения сбылись практически сразу. Но вскоре дальнейшее развитие событий показало, что положение с отдыхом на климовичских водоёмах значительно хуже, чем в прошлом году.

Через пару недель ряд газет и информагентств страны передали, что в Беларуси ограничили купание в десяти водоёмах. Купание в них было ограничено из-за несоответствия водоёмов эпидемиологическим критериям безопасности или нахождения в неудовлетворительном санитарно-техническом состоянии. И самое поразительное то, что пять из этих десяти водоёмов оказались на территории Климовичского района! По данным Республиканского центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья, нельзя купаться в карьере «Песчаный», озёрах «Калиница», «Блиунг», «Лозовица» и городском озере в Климовичах.

### *СРОЧНО НАВЕСТИ ПОРЯДОК!*

В районной газете Климовичского района информация об этом появилась только 28 июня. Небольшая заметка имела нейтральное название «Отдых у водоёма». В ней говорилось, что «решением Климовичского райисполкома на территории района определены места массового отдыха граждан вблизи водоёмов. Это пляж на городском озере, расположенном в районе улицы М. Горького в райцентре». Но прочитав заметку дальше, можно было узнать, что с 9 июня там наложен запрет на купание. Одновременно запрещено купание в карьере «Песчаный», озёрах «Калиница», «Блиунг», «Лозовица» и реке Лобжанка (в районе ПМК-88). Возникает вопрос, почему климовчан проинформировали о запрете на купание спустя столько времени?

Вызывает интерес и документ, появившийся на сайте Климовичского райисполкома. Он озаглавлен следующим образом: «Мероприятия по подготовке зон массового отдыха на водных объектах Климовичского района». Содержание документа сводится к тому, что необходимо навести порядок на городском озере, а также на других водных объектах района. Сроки исполнения перечисленных в нём мероприятий – 20 либо 25 мая 2014 г., при том что сообщение на сайте датировано 19 июня.

В соответствии с принятым решением пляж на городском озере должен быть оборудован раздевалками, теневыми навесами, туалетом, мусорными контейнерами, щитами для спасательного имущества и даже флагштоком. В местах, запрещённых для купания, установят стенды с надписью «Купаться запрещено». Климовичскому лесхозу поручено сделать пять скамеек и беседку. Отдел экономики райисполкома отвечает за вопрос по выездной торговле прохладительными напитками (в жаркие дни), работу индивидуального предпринимателя по проведению водных аттракционов.

Аналогичные мероприятия предусмотрено реализовать на остальных водных объектах в зонах массового отдыха Климовичского района. В целом они сводятся к ремонту установленных на прибрежной территории зданий, сооружений, и малых архитектурных форм, установке туалетов и мусорных контейнеров. И, как правило, в местах, запрещённых для купания, должны появиться предупреждающие стенды с надписью «Купаться запрещено».

Дополнительно отметим, что районному отделу внутренних дел поручено организовать патрулирование у водоёмов в дневное и ночное время. А лицею и колледжу — оказать содействия в санитарной очистке мест отдыха у следующих водоёмов (городской пляж, озеро «Калиница», карьеры).

Как видим, районные власти, в конце концов, взялись за наведение порядка и обустройство условий для нормального отдыха климовчан. Конечно, сделать это следовало намного раньше, но как говорится, лучше поздно, чем никогда.







# КОСИ, КОСА, ПОКА РОСА

Елена ПОЛЯКОВА

***Едва только первая зелень пошла в рост, как коммунальники начали косить молодую траву. Под ножи косилок попадают придорожные заросли, незаметно вылезшие растения рядом с тротуарами, зелёные насаждения в парках. Некоторые люди недоумевают, зачем, мол, обрезать только появившиеся цветы и прочую траву-мураву? Оказывается, делается всё это не только для наведения красоты.***

О том, что начался сезон «городской косовицы», узнать проще простого. Шум от жужжащих косилок раздаётся уже с самого утра. Это понятно, ведь заниматься стрижкой в утренние часы легче, чем во время дневного палящего солнцепёка. Правда, складывается ощущение, что траву косят постоянно. Кажется, она ещё только-только выросла, как её тут же обрезают!

Зачем же с таким постоянством и настойчивостью занимаются обрезкой и стрижкой? Эстетика, конечно, тоже важна, но в городах траву скашивают, главным образом, для того, чтобы в ней не заводились различные паразиты. Высокий растительный покров благоприятствует размножению вредных микроорганизмов, в первую очередь, клещей. А они, как известно, стали бичом нашего времени. С начала весны от укусов клещей пострадало уже более 2000 человек, из них 900 — это дети. Специалисты с тревогой отмечают, что в этом году первых укушенных зарегистрировали необычайно рано, ещё в конце февраля. Обычно же такие случаи начинают фиксировать в апреле.

В больших городах места обитания клещей обрабатывают специальными препаратами. Опасные насекомые могут находиться в городских парках, природных зонах отдыха, летних лагерях. Разумеется, от покоса травы также не отказываются. А в провинции этот способ зачастую является единственным эффективным средством от клещей и прочих вредоносных паразитов. Всё-таки обработка препаратами требует значительных средств, к тому же любой летний дождик смывает защитную химию. Остаётся одно — с утра пораньше включать газонокосилки и триммеры.

О том, что активность клещей возросла, могу подтвердить личными наблюдениями. В этом мае мать два раза находила клещей в своей квартире (живёт в Климовичах на центральной улице Ленина). Скорее всего, насекомые попали в дом вместе с котом или, возможно, принесла сама, работая на огороде. К счастью, обошлось без последствий, но так бывает не всегда. К примеру, у брата клещ укусил овчарку, и собаку еле спасли, на несколько дней у неё отказали лапы. В районной ветлечебнице ей ставили капельницу, а за лекарства пришлось заплатить 250 тысяч. После этого поинтересовалась в нашем климовичском магазине «Зоотовары», обращаются ли к ним с подобными проблемами. В магазине сказали, что теперь препаратов против клещей стали покупать как минимум в три раза больше, чем раньше.

Так что для сохранения здоровья и во избежание неприятных последствий, соблюдайте определённые правила в тех местах, где могут встретиться эти опасные кровососы.

***ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО:***

* В прошлом году 38 тысяч белорусов пострадали от укусов клещей. При этом более тысяче человек диагностировали болезнь Лайма, а 100 укушенным — энцефалит.

* Вопреки распространённому мнению, клещи не живут на деревьях и не падают с них на людей, а заводятся на земле в опавшей листве, причём чем толще слой подстилки, тем комфортнее клещам. Поэтому необходимо убирать растительные остатки, очищать захламленные места возле дома.

* Клещи охотятся в высокой траве, в кустарниках и смешанных лесах, где есть заросли и валежник. Как правило, они



сидят и подстерегают жертву, затем цепляются и переползают на участки тела, открытые для укуса. В окружающем мире клещи ориентируются в основном с помощью осязания и обоняния, глаз у клещей нет. Зато обоняние очень острое: исследования показали, что клещи способны чувствовать запах животного или человека на расстоянии около 10 метров.

# В ГОД ВЫБОРОВ ЗАПЛАНИРОВАН ОЩУТИМЫЙ РОСТ КОММУНАЛЬНЫХ ТАРИФОВ

Данила МЕСТИЧ

***Белорусы уже привыкли, что в год президентских выборов власти специально сдерживают тарифы и цены, и увеличивают зарплаты. Но в 2015 году, вопреки ожиданиям людей, правительство планирует существенно повысить оплату коммуналки. По официальным данным в настоящее время мы погашаем 28% от реальной стоимости жилищно-коммунальных услуг. А уже в следующем году по планам правительства коммуналка может обойтись ориентировочно в 60% от полной стоимости. Также предлагается сделать так, чтобы население стало полностью оплачивать газ и электроэнергию. Это что же получается, будем с новыми тарифами и старым президентом?!***



# КАК ЗАКОННО НЕ ПОЕХАТЬ ПО РАСПРЕДЕЛЕНИЮ И НЕ ПЛАТИТЬ ВУЗУ ЗА ОБУЧЕНИЕ?

**Владимир НАЗАРОВ, zautra.by**

***Лучший вариант получить интересующее место отработки – позаботиться об этом ещё во время обучения и на распределении предоставить комиссии запрос от работодателя, заинтересованного в молодом специалисте. Однако по разным причинам выпускники отправляются на первое место работы в организации и на предприятия, которые, мягко говоря, им не подходят.***

***«Завтра твоей страны» вместе с юристом изучает законные возможности для молодых специалистов смены места работы или освобождения от обязательной отработки.***

***Самый удобный вариант сменить место работы — перераспределиться в организацию, которая готова принять выпускника на два обязательных года отработки. Для этого молодому специалисту надо найти новую работу, где наниматель даст справку о готовности трудоустроить бывшего студента, и сделать подобную справку от старого нанимателя с его согласием отпустить работника. Со всеми собранными бумагами надо обратиться в университет, где и будет решаться вопрос о перераспределении.***

***К сожалению, даже согласие обоих работодателей не может быть гарантией перераспределения. Окончательное решение принимает специальная комиссия в университете.***

***Поводом для перераспределения или освобождения от выплат за обучение могут стать и другие причины.***

***— Существуют категории граждан, которые не могут быть направлены туда, где они не проживают, не имеют своего места жительства, — рассказывает юрист Наталья Андреева. — Это инвалиды 1 и 2 группы, беременные, женщины или мужчины, имеющие детей до 3-х лет и другие категории, которые указаны в пунктах 2-6 статьи 88 Кодекса об образовании. Например, если муж и жена распределяются одновременно или муж уже работает по месту распределения, то жену должны направить к нему, или наоборот.***

***По словам юриста, изменение или расторжение договора надо согласовать с органом госуправления, в подчинении которого находится организация.***

### *СВОЕВОЛИЕ ОБЕРНЁТСЯ БОЛЬШИМИ ТРАТАМИ*

Расторгнуть трудовой договор по желанию молодого специалиста или по согласию сторон невозможно.

Уволить молодого специалиста могут за нарушения пунктов контракта или прогулы. Пойти на такой шаг можно только в том случае, если человек согласен, а главное, имеет возможность вернуть государству потраченные на его обучение средства.

Сумма в расчете получается не маленькая: все затраты на обучение, стипендии и другие выплаты умножаются на корректирующий коэффициент. В результате за пять лет обучения студент должен государству около 150 млн рублей.

Любое отклонение от законодательных норм об образовании, распределении и возмещении средств обойдется молодому специалисту в копеечку.

### *НО ЕСТЬ И ЗАКОННЫЕ СПОСОБЫ ИЗБЕЖАТЬ РАБОТЫ ПО РАСПРЕДЕЛЕНИЮ*

В статье 88 Кодекса об образовании прописаны причины, по которым молодой специалист может быть освобожден от отработки. Воспользоваться перечисленными пунктами могли бы многие, но они просто не знают или невнимательно изучают законодательство.

— В любой спорной ситуации молодые люди должны почитать законы, а еще лучше – обратиться за юридической помощью, – подчеркивает Наталья Андреева. – Кто осведомлён, тот вооружен. Есть много случаев, когда работодатель обманывает неопытных работников, специально или по незнанию. Бывает, приходит молодежь и говорит, что наниматель устанавливает молодому специалисту испытательный срок, переводит его на другую должность. Это противоречит Кодексу! И каждый такой случай может сыграть на руку работнику.

Подобные действия работодателя могут стать причиной для перераспределения специалиста или освобождения его от отработки, также, как и случаи нарушения нанимателем Трудового кодекса или договора.

— Человек, который готовится к распределению, знает, кем будет работать, какой у него будет оклад. Если ему задерживают зарплату, заставляют выходить на работу в выходные дни без оформления приказов, лишают возможности профессионального роста — это и есть нарушения, которые могут стать основанием расторжения контракта, — объясняет юрист.— Тогда работник обращается в профсоюз, в соответствующие отделы исполнительных комитетов, комиссии по трудовым спорам.

Не продолжать работу в организации молодой специалист может, если поступит на дневную форму более высокой ступени обучения, перейдет «на выборную должность» или если наниматель решит расторгнуть контракт, ликвидируя предприятие, при сокращении штата и




других объективных причин, а также из-за болезни, которая не позволяет работать более 4 месяцев.

Как и работники, указанные выше, эти специалисты могут перераспределиться или получить справку свободном трудоустройстве, не возмещая деньги за своё обучение.





# КАМЕНТАРЫЙ ПРАВААБАРОНЦАЎ ДА СПРАВЫ АЛЕНЫ МАРЧАНКІ

Сяржук АРЖАНЦАЎ

***Шмат хто з жыхароў Клімавіцкага раёну чуў альбо ведае пра Алену Марчанку, якая жыве ў вёсцы Дамамерычы. З восені мінулага года працягваецца яе супрацьстаянне з мясцовымі ўладамі, у чым былі задзейнічаны суд, пракуратура, дзяржкантроль ды іншыя ўстановы і арганізацыі. Рэзананс ад гучнай справы даўно выйшаў за межы Клімавічаў. Пра што казаць, калі ў Дамамерычы спецыяльна прыязджала журналістка «Комсомольской правды», каб зрабіць падрабязны рэпартаж з месца падзеі. Неаднаразова друкавала артыкулы на гэтую тэму і наша выданне. Сёння ж мы прапануем азнаёміцца з меркаваннем магілёўскіх праваабаронцаў, якія выказалі юрыдычныя заўвагі па апошняму судоваму разгляду з удзелам Алены Марчанкі.***

### *АДМЕНА ВЫКЛІКАЕ ПЫТАННІ*

Зусім нядаўна з’явіўся чарговы нумар "Праваабарончага весніка" за чэрвень 2014 года. Гэта праваабарончы бюлетэнь, у якім асвятляецца дзейнасць праваабаронцаў Магілёўшчыны. У нумары за чэрвень можна прачытаць пра вызваленне вядомага грамадскага дзеяча Алеся Бяляцкага, бягучую судовую практыку і іншыя матэрыялы. Адзін з іх быў прысвечаны справе Алёны Марчанкі. Вось скарочаны каментарый магілёўскіх праваабаронцаў.

“8 студзеня 2014 года жыхарка вёскі Дамамерычы Алена Марчанка была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці па ч.1 арт.15.38 КаАП адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама – яна атрымала папярэджанне за парушэнне ветэрынарных і ветэрынарна-санітарных правіл утрымання жывёлаў у хатніх гаспадарках. Марчанка абскардзіла гэта рашэнне ў судзе Клімавіцкага раёну, і той 5 лютага накіраваў справу на новы разгляд. Аднак на новым разглядзе, 13 траўня, адміністрацыйная камісія зноў пакарала Марчанку, прычым на гэты раз ужо не папярэджаннем, а штрафам у 15 БВ (2 250 000 рублёў). Марчанка абскардзіла і гэтую, відавочна незаконную пастанову, ў судзе Клімавіцкага раёна. Суддзя Таццяна Іваненка 17 чэрвеня адмяніла пастанову і спыніла адміністрацыйную справу ў дачыненні да Алены Марчанкі”.

Але, звяртаюць увагу праваабаронцы, “прычынай для адмены сталі не грубыя парушэнні заканадаўства адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама, а тое, што, на думку суда, скончыліся тэрміны прыцягнення Марчанкі да адміністрацыйнай адказнасці”.

Суддзя адмяніла пастанову адміністрацыйнай камісіі па нерэабілітуючай Марчанку прычыне — з-за пропуску прадугледжанага ч.3 арт.7.6 КаАП двухмесячнага тэрміну накладання адміністрацыйнага спагнання пасля адмены папярэдняй пастановы і адпраўкі справы на новы разгляд.

### *НЕЗАЎВАЖАНЫЯ ПАРУШЭННІ*

Па меркаванню незалежных юрыстаў, нельга абыйсці маўчаннем усе астатнія, значна больш сур’ёзныя парушэнні, якія былі дапушчаныя пры разглядах гэтай адміністрацыйнай справы. Яны лічаць, што камісія дапусціла наступныя значныя парушэнні:

“1) Сама адміністрацыйная камісія прызнала, што працэс супраць Марчанкі быў пачаты з парушэннем парадку вядзення адміністрацыйнага працэсу. Камісіяй былі зафіксаваныя факты парушэння ўстаноўленага парадку вядзення адміністрацыйнага працэса галоўным дзяржаўным ветэрынарным урачом Клімавіцкага раёну сп. Зянько, які і распачаў справу супраць Марчанкі. Справа падлягала спыненню на падставе ч.2 арт. 2.2 ПВКаАП.

2) Марчанка не атрымлівала прадпісання аб устраненні парушэнняў ветэрынарна-санітарных правілаў утрымання свіней. Яно было ўручана не Марчанцы, а яе мужу, які не з’яўляецца ўласнікам гаспадаркі. Таму справа павінна была быць спыненая за адсутнасцю правапарушэння.

3) На выдадзеным прадпісанні адсутнічае пячатка дзяржворгану, які яго выдаў. Таму прадпісанне не мае юрыдычнай сілы. Да таго ж, нагадваем, яно было выпісана не Алене Марчанцы, а яе мужу. Справа павінна была быць спыненая паводле п.2 ч.1 арт.9.6 ПВКаАП, з-за адсутнасці ў дзеянні складу правапарушэння.

4) Адміністрацыйная камісія незаконна адмовіла Марчанцы ў выкліку сведак, як сведак абароны так і сведак абвінавачання. Гэтым было парушана права Марчанкі на абарону.

5) Сведкі абвінавачання не былі папярэджаныя аб адказнасці за дачу заведама ілжывых паказанняў. Таму іх паказанні не павінныя былі брацца пад увагу. Гэтага дастаткова для спынення справы па п.10 арт.9.6 ПВКаАП, з-за недаказанасці віны.

6) Пры паўторным разглядзе справы Марчанкі адміністрацыйнай камісіяй Клімавіцкага райвыканкама на яе было накладзена больш цяжкае пакаранне, чым першапачатковае. То бок за факт абскарджання першай пастановы камісіі, калі Марчанку пакаралі папярэджаннем, гэтая ж камісія на паўторным разглядзе пакарала яе штрафам у 15 базавых велічыняў. Такія дзеянні парушаюць падставовыя нормы права, фактычна пазбаўляючы пакаранага права на абскарджанне”.

Пералічаныя істотныя моманты суддзя абыйшла маўчаннем, каб не выносіць прыватнае вызначэнне ў адрас адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама. Таксама неабходна адзначыць, што спыненне справы з-за пропуску тэрмінаў пазбавіла Марчанку магчымасці вярнуць заплачаную ёй пры падачы скаргі дзяржаўную пошліну. Падаткавы кодэкс і і ПВКаАП не прадугледжваюць вяртання дзяржпошліны ў выпадку спынення справы на такой падставе.



Менавіта таму магілёўскія праваабаронцы лічаць неабходным звярнуцца да старшыні абласнога суда са скаргай аб змяненні падставаў для спынення справы супраць Алены Марчанкі.





# У РАСІІ ЖАНЧЫНА ВЕЗЛА Ў КУПЭ ЦЯГНІКА КОТКУ, А АКАЗАЛАСЯ — ЛЬВІЦУ

Падрабязнасці здарэння паведаміла Еўрарадыё. Жанчына аформіла дзевяцімесячную львіцу як котку і везла яе ў купэ. Аднак 50-кілаграмовая драпежніца, якая, дарэчы, была без намордніка, "выйшла з пад кантроля". Супакоіць яе гаспадыня не змагла. На месца прыйшлі паліцэйскія. У выніку, львіцу ўсыпілі і вынеслі з вагона ў суправаджэнні вопытнага дрэсіроўшчыка.

Як адзначае РІА "Новости", жанчына цяпер дае тлумачэнні наконт сваёй "коткі", якая аказалася львіцай. Таксама праблемы могуць быць у работнікаў чыгункі, якія дапусцілі ў вагон драпежніцу.

## ПЯТЬ МУДРЫХ ЕВРЕЕВ: ПОЧЕМУ КОМУ-ТО ПЛОХО

***** Первый мудрый еврей говорил, что у людей всё плохо, потому что у них вот тут (показывая на лоб) всё плохо. Это был Моисей.**

***** Второй мудрый еврей говорил, что у людей всё плохо, потому что у них вот тут (показывая на сердце) всё плохо. Это был Христос.**

***** Третий мудрый еврей говорил, что у людей всё плохо, потому что у них вот тут (показывая на карман) всё плохо. Это был Маркс.**

***** Четвертый мудрый еврей говорил, что у людей всё плохо, потому что у них вот тут (показывая ниже пояса) всё плохо. Это был Фрейд.**

***** А пятый мудрый еврей сказал, что у людей не всё так плохо, как им кажется, потому что всё относительно. Это был Эйнштейн.**

## ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

***Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 і 2013 год.***



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

## КУРС ДОЛЛАРА К КОНЦУ ГОДА СОСТАВИТ 10.800 РУБЛЕЙ

***Курс доллара к концу года составит 10700-10800 рублей. Об этом заявила председатель Национального Банка РБ Надежда Ермакова во время прямой линии в редакции «Советской Белоруссии».***

***«Мы будем стремиться к тому, чтобы белорусский рубль нормально себя чувствовал не только в номинальном, но и в реальном исчислении. Согласно расчётам, концу года курс доллара не должен превысить 10700-10800» — отметила председатель Национального банка.***

## АСУДЖАНЫ МУЖЧЫНА, ЯКІ ПАМЫЛКОВА АТРЫМАЎ У БАНКУ ВАЛЮТУ



31-гадовы мінчук быў асуджаны за "махлярства ў асабліва буйным памеры" на пяць гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці з адтэрміноўкай выканання пакарання на тры гады.

Як паведамляе БелаПАН, у лістападзе 2012 года мужчына набыў у аддзяленні аднаго з банкаў у сталіцы 6300 еўра, а пасля папрасіў касірку памяняць яму грошы на буйнейшыя купюры. Касірка гэта зрабіла, але памылкова выдала кліенту не 6300, а 24500 еўра. Мужчына грошы забраў і пайшоў.

Калі асоба мінчука стала вядомая, яму прапаноўвалі вярнуць грошы, аднак зрабіў ён гэта толькі пасля распачынання крымінальнай справы.



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*